— князёў Сапегаў у Дзярэчыне,[92]) графаў Храбтовічаў у Шчорсах[93]) і Бешанковічах,[94]) князёў Любецкіх у Шчучыне,[95]) графаў Цішкевічаў у Лагойску,[96]) князёў Вішнявецкіх у Брагіне[97]) й Прозараў у Хойніках.[98])

Асобна мусім назваць **Нясьвіскі архіў** у замку князёў Радзівілаў.[99]) Хоць тут і была частка дакумантаў прыватных (акты самiх Радзівілаў, Кішкаў і іншых — да 8.400 сем'яў), у сваёй асноўнай частцы ён меў характар дзяржаўнага, дзеля чаго й заснаваны быў у 1551 г. адумысловым прывілеем в. кн. Жыгімонта Аўгуста.[100]) У архіве захоўваліся арыгіналы (рэдка — копіі) вялікакняжых і каралеўскіх прывілеяў, унівэрсалаў, лістоў і іншых дакумантаў; соймавыя дзёньнікі (31 сойму — 36 тамоў); канцлерская мэтрыка Мікалая Радзівіла за 1511—18 гг.; царкоўныя акты праваслаўнай, каталіцкай, пратэстанцкай і вуніяцкай цэркваў; вялікі збор лістоў шматлікіх дзяржаўных мужоў (Хадкевічаў, Сапегаў, Астроскіх і г. д.), і інш. У 1867 г., пасьля рабункаў і паленьняў архіву ў 1814—1836 гг., у ім яшчэ засталося (без далучанага к таму часу збору кн. Вітгэнштэйна) 254.846 дакумантаў, пачынаючы ад XIV ст., спаміж якіх — 1.246 пэргамінных.[101])

Падобна бібліятэкам, якія мелі каталёгі кніг, галоўнейшыя архівы мелі рэестры дакумантаў — усіх ці мінімальна выдатнейшых.[102])

Пра ахову архіваў былі спэцыяльныя ўрадавыя пастановы й асобны артыкул[103]) у Статуце 1588 г. У часе войнаў важнейшыя зь іх эвакуяваліся і. раёнаў вайсковых дзеяньняў. Таму пра Нясьвіскі архіў, прыкладам, у пастанове сойму 1768 г. сьведчыцца, што ягоныя дакуманты «у працягу стагодзьдзяў захоўваюцца дбайна й пэўна . . . А ў часе былых войнаў . . . князі, пакінуўшы свае каштоўнасьці на рабунак ворагу, вывозілі архіў, выдаткоўваючы свае значныя сродкі й перахоўваючы яго ў бясьпечных месцах»[104]).

---

[92]) М. О. Безъ-Карниловичъ. Историческія свѣденія о примѣчательнейшихъ мѣстахъ въ Бѣлоруссіи, СПБ, 1855 г., бб. 49, 89 і 144; Иконниковъ, т. 1, кнг. 1, бб. 258-259 і т. 1, кнг. 2, бб. 1237-1238.

[93]) Polski Slownik Biograficzny, там-жа; Сьцяпанаў, там-жа.

[94]) АШ, § 131.

[95]) Иконниковъ, т. 1, кнг. 2, б. 1237.

[96]) Там-жа, б. 1238.

[97]) Там-жа, б. 1239.

[98]) Там-жа.

[99]) Пазьней іншым разам ён, як і бібліятэка, быў у палацы Радзівілаў у м. Палонка к. Міра.

[100]) Volumina legum, выданьне 2-ое, т. 7, СПБ, 1860 г., бб. 399-400.

[101]) П. А. Гильтебрандтъ, уступны артыкул да АСД, т. 7, 1870 г.; Иконниковъ, т. 1, кнг. 2, бб. 1239—1241; Dr. E. Barwiński. Archiwum ks. Radziwiłłów w Nieświeżu — Archiwum Komisyi Historycznej, t. II, Kraków, 1909—1913, бб. 1-10; АШ, § 98.

[102]) У кнігах Літоўскай Мэтрыкі гэта адзначана ў іхных загалоўках: «Мэтрыка привильевъ, данин, потверженей и иншихъ розных справ короля его милости Жикгимонта Першого от року 1518 до року 1523. Переписана, *зрэестрована* (падкр. нашае — АК) и знову интроликгована за росказаньем ясневелможъного пана его милости, пана Льва Сапеги, канцлера Великого князства Литовского . . . в року тысеча пятьсот девятьдесятъ осмомъ» (Кніга Запісаў 10). У Нясьвіскім архіве рэестры былі блізу на ўсе дакуманты (Гильтебрандтъ, там-жа).

[103]) Арт. 13, разьдз. IV.

[104]) Volumina legum, там-жа.

*Некаторыя скарачэньні*

АВАК — Акты, издаваемыя Виленскою комиссіею для разбора древнихъ актовъ, Вильна

АЗР — Акты, относящіеся къ исторіи Западной Россіи, собранныя и изданныя Археографическою комиссіею, СПБ

АСД — Археографическій сборникъ документовъ, относящихся къ исторіи Сѣверо-Западной Руси, издаваемый при Управленіи Виленскаго учебнаго округа, Вильна

АШ — Альгэрд Шлюбскі. Доля кнігасховаў і архіваў зямель крыўскіх і был. Вялікага княства Літоўскага, Коўна, 1925 г. (адбітка із час. «Крывіч», 1925 г., № 9/1, бб. 19-68).

БелСЭ — Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, АН БССР, Мінск

Добрянскій — Ф. Н. Добрянскій. Описаніе рукописей Виленской Публичной библіотеки, Вильна, 1882 г.

ІБК ПЗБАА — Інстытут Беларускае Культуры. Працы Першага Зьезду Дасьледчыкаў Беларускае Археолёгіі і Археографіі 17-18 студзеня 1926 году. У Менску — 1926.

Иконниковъ — Опытъ русской исторіографіи В. С. Иконникова, т. 1, книга 1 и 2, Кіевъ, 1891—1892 г.

ИЮМ — Историко-юридическія матеріалы, извлеченныя изъ актовыхъ книгъ губерній Витебской и Могилевской, хранящіеся въ Центральномъ архивѣ въ Витебскѣ, Витебскъ

Книга — Книга. Исследования и материалы, Москва

ЛІМ — газ. «Літаратура і Мастацтва», Мінск

Полымя — час. «Полымя», Мінск

РИБ — Русская Историческая Библіотека

ЭС — Энциклопедическій словарь . . . издатели: Ф. А. Брокгаузъ, И. А. Ефронъ, СПБ

LE — Lietuvių Enciklopedija, New York

*А. Д—ка*

# Насельніцтва БССР

У 1970 г. быў праведзены ва ўсім Савецкім Саюзе перапіс насельніцтва, а яго вынікі былі пададзеныя шмат пазьней, бо толькі ў 1972—73 выйшла з друку пяць тамоў пад назовам: «Итоги Всесоюзной Переписи Населения 1970 года», Москва, 1972, т. I—III; Москва, 1973, т. IV—V. У IV-ым томе знаходзіцца размеркаваньне насельніцтва БССР паводле нацыянальнасьці і мовы. Сетка ўсяго насельніцтва сучаснай БССР выглядае даволі стракатa, хаця ў галоўным беларусы зьяўляюцца рашучай большасьцю, аб чым можна пераканацца з пададзенага ліку:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Беларусы | 7.289,610 | Цыганы | 6,843 |
| Расейцы | 938,161 | Латышы | 2,660 |
| Палякі | 382,600 | Армяне | 2,362 |
| Украінцы | 190,839 | Чувашы | 1,922 |
| Жыды | 148 011 | Малдаване | 1,800 |
| Татары | 10,031 | Мардва | 1,737 |
| Літоўцы | 8,092 | Іншыя | 17,670 |

Усё насельніцтва: . . 9.002,338

З агульнага ліку жыхараў лічуць сваей роднай мовай — беларускую:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 6.571,489 | — Беларусы | 347 | — Цыганы |
| 14,512 | — Расейцы | 411 | — Латышы |
| 292,420 | — Палякі | 74 | — Армяне |
| 10,985 | — Украінцы | 66 | — Чувашы |
| 2,911 | — Жыды | 83 | — Малдаване |
| 3,437 | — Татары | 46 | — Мардва |
| 1,134 | — Літоўцы | 1,173 | — Іншыя |

Што некалькі чувашоў або мардванаў падкінутых савецкай нацыянальнай палітыкай на Беларусь і пражыўшых тут нямала часу пачынаюць лічыць сваей роднай мовай — беларускую, зьява цікавая, але зразумелая. Затое непакоіць нас іншы факт: лік расейцаў, які сягае ўжо мільёна. Гэта без сумніву вынік задуманай у Маскве расейскай нацыянальнай палітыкі, каб Беларусь абрасеіць і давесьці да падобнага становішча як за царскіх часоў. Пацьвярджаюць гэты грозны для беларусаў факт выдаваньне ў БССР вялізарнымі тыражамі кніжак у расейскай мове, а такжа страшэнная русыфікацыя ў школах.

Іншы дзівосны факт савецкай статыстыкі — гэта значны лік «палякаў» (292,420), якія падалі беларускую мову як сваю родную. Пакольні нам ведама ў БССР сяньня не праводзіцца беларусізацыя сярод палякаў, а таксама ўсім ведама і тое, што палякі (за вельмі рэдкімі выняткамі) беларускай мовай не захопліваліся, наадварот ёй пагарджалі і яе — дзе маглі — прасьледавалі. Таму маем права думаць, што прычынай савецкай няяснай статыстыкі ня ёсьць сьведамасьць ці перакананьні г. зв. палякаў. Каб лепш зразумець гэтае зьявішча, трэба нам вярнуцца ў недалёкую мінуўшчыну, у XIX стагодзьдзе.

Пасьля падзелаў Рэчыпаспалітай (1772, 1793, 1795) Расея знайшла на беларускіх землях насельніцтва рэлігійна мяшанае. Найбольш было каталікоў усходняга абраду або вуніятаў (каля трох мільёнаў), другое месца займалі каталікі лацінскага абраду (больш аднаго мільёна); праваслаўных налічвалася каля 300,000. Дзеля царскай рэлігійнай палітыкі хутка палажэньне зьмянілася, асабліва пасьля ліквідацыі Вуніі Мікалаям I (25 сакавіка 1839 г.). Частка вуніятаў змагла прыняць лацінскі абрад, прыкладам у аднэй толькі Гарадзеншчыне звыш 200,000, большасьць аднак прымусова была пераведзеная у праваслаўе.

Лацінскі Касьцёл на Беларусі быў амаль зусім апалячаны: казаньні і г. зв. дадатковыя набажэнствы адбываліся ў польскай мове, хаця народ іх не разумеў. Калі пачаўся прасьлед лацінскага Касьцёла на Беларусі, вернікі беларусы знайшліся ў тым самым катле што й палякі. Царскі урад і польскае духавенства (за малымі выняткамі) лічылі іх палякамі. Расейскія славянафілы і «западноруссы» дзялілі наш народ паводле рэлігійнага прынцыпу: каталік — паляк, праваслаўны — расеяц (русскій).

А. Цьвікевіч у сваей славутай кнізе: «Западно-руссізм», Менск, 1929, стр. 175, пісаў: «Для Каяловіча вера азначае ўсё, — і нацыянальнасьць і народнасьць і самую „русскую душу". Як і для Гаворскага, так і для яго „вне православия" не магло быць Расеі, і тыя беларусы, якія ходам гісторыі прынялі каталіцтва, якія нават па ўласным яго прызнаньні захавалі мову і звычаі беларускія, тым самым ужо выключаліся з ліку беларускага насельніцтва і аддаваліся Польшчы».

А. Цьвікевіч пагляды праф. М. Каяловіча называе забойчай для Беларусі тэорыяй і падае пару прозьвішчаў тых сярод «западноруссов», якія мелі адвагу ёй супрацівіцца, менавіта П. Баброўскі і А. Сапуноў. Гэты апошні ў сваей прамове ў Дзяржаўнай Думе у траўні ў 1909 г. гаварыў: «Залічаць у лік палякаў беларусаў-каталікоў толькі па тым, што яны каталікі, ёсьць па просту этнаграфічнае грабежніцтва».

Хочучы ці не, аднак расейская статыстыка не магла не заўважыць сярод каталікоў на Беларусі і беларусаў. Прыкладам у «Этнаграфічным Атлясе» Рыттіха-Эркерта з 1863 г. падаваўся такі падлік у трох каталіцкіх дыяцэзіях Віленскай, Менскай і Магілёўскай:

| | | Беларусы каталікі | Палякі |
|---|---|---|---|
| Дыяцэзія | Віленская | 386,608 | 237,075 |
| ,, | Менская | 7,354 | 116,043 |
| ,, | Магілёўская | 47,193 | 68,658 |

Пазьней, калі разгарэлася змаганьне за ўвядзеньне расейскай мовы ў каталіцкія сьвятыні і калі царскаму ўраду усёжтакі не ўдалося асягнуць сваей мэты, ён быў схільны, каб замест польскай ці расейскай мовы была ўжываная беларуская. Значыць царская Расея ведала пра беларусаў каталікоў, каторых лік перад бальшавіцкай рэвалюцыяй дасягаў паўтара мільёна вернікаў.

Варта прыгадаць тут таксама нашых суседзяў палякаў, зь якімі так ці інакш беларусам прыходзілася жыць разам. Палянізацыя беларусаў прынесла шмат для нас культурных і матар'яльных стратаў; а ведама ўсім, што ў першую чаргу яна пашыралася праз польскі каталіцкі Касьцёл, бо цяжка знайсьці на сьвеце іншы такі народ, дзе рэлігія і нацыянальнасьць гэтак цесна былі зьвязаныя, як у палякаў і дзе Хрыстова рэлігія магла быць гэтак надужываная.

Аднак, калі пачалося сярод беларусаў адраджэньне і калі знайшліся беларускія каталіцкія сьвятары, якія пачалі гаварыць казаньні пабеларуску і маліцца з народам у яго роднай мове, знайшліся таксама й палякі, якія ня толькі пагаджаліся з фактам, але аказывалі нават да пэўнай меры дапамогу. Былі гэта выняткі, але варта нам аб іх помніць і ў патрэбе дзеля нашай уласнай справы іх выкарыстоўваць. Да іх належаць: пралат А. Важыньскі († 1872), а. др. У. Кнапіньскі († 1910), прафэсар кракаўскага унівэрсытэту; архібіскупы Ф. А. Сымон († 1918) і Э. Ропп; а. Ёзафат Жыскар, апалячаны француз.

Пралат Александар Важынскі, аўтар ведамай кніжкі аб прасьледваньні Рымска-Каталіцкага Касьцёла за часаў Мураўёва, якая дагэтуль не страціла сваей вартасьці: Litwa pod względem prześladowania w niej Rzymsko-Katolickiego Kościoła szczególniej w dyecezyi wileńskiej od roku 1863 do 1872, Poznań, 1872.

Аўтар, рашучы вораг расейшчыны, выступае ў абароне беларускай мовы, на якой былі напісаныя такія выдатныя творы як Статут В.К.Л., Біблія Скарыны і іншыя.

Ксёндз праф. др. Уладыслаў Кнапінскі апублікаваў у 1893 г. «Ліст да сьвятара», які быў скіраваны да праславутага ў сваім часе канoніка Сэнчыкоўскага. У тым «Лісьце» ён хваліць Сэнчыкоўскага за тое, што ён будучы парохам у Блоні да беларусаў у сьвятыні гаварыў пабеларуску, а ганіць, што да тых самых беларусаў часьцей аднак зьвяртаўся у расейскай мове чым у беларускай.

Успомненыя вышэй архібіскупы Францішак Альбін Сымон і Эдвард Ропп спрычыніліся нямала да ўвядзеньня практычнага беларускай мовы у касьцёлы.

Айцец Ёзафат Жыскар сьведчыць у сваіх вельмі вартасных зшытках: «Нашэ Касьцёлы», якія выходзілі ў 1913—1914 гадах, аб беларускіх казаньнях і беларускіх сьпевах у некаторых парахвіях магілёўскай архідыяцэзіі. Ён такжа падае гэткую статыстыку магілёўскай губэрніі:

| | | |
|---|---|---|
| Усіх жыхароў | — | 1.690,000 |
| Праваслаўных | — | 1.402,161 |
| Каталікоў | — | 50,159, |

зь якіх беларусаў: 32,633.

Няма сумніву, што а. Жыскар ведаў пра беларусаў каталікоў і ў іншых дыяцэзіях.

*

Аб рэлігійных адносінах расейцаў і палякаў да беларусаў пісалася ўжо неаднойчы, а таксама і ў «Божым Шляху» (глядзі а. Л. Гарошка, Пад знакам «рускае і польскае» веры, 1954, нумары 60—65). Тут яшчэ раз сьцьвярджаем, што ня гледзячы на розныя цяжкасьці беларусы каталікі асталіся вернымі сваім пераконаньням і ў агульным ліку беларускага этнаграфічнага насяленьня перад апошняй сусьветнай вайной яны складалі блізка 1/3 частку. Пасьля вайны большасьць зь іх апынулася ў БССР, часьць выехала ў Польшчу, а нават у Латвію і Літву, дзе большая рэлігійная свабода чым у Савецкім Саюзе.

А цяпер ізноў ставім пытаньне: хто-ж яны ёсьць тыя «палякі» ў БССР, якія падалі сваей роднай мовай беларускую?

Для нас няма ніякага сумніву, *што гэта ёсьць частка беларусаў каталікоў*, сярод якіх дагэтуль працуе пераважна польскае духавенства, якое лятуціць толькі аб тым, каб хутчэй разваліўся Савецкі Саюз і каб яно яшчэ з большым імпэтам магло апалячываць праз Каталіцкі Касьцёл — зразумела надужываючы яго імя і павагу — астаўшыхся беларусаў каталікоў. Савецкі-ж урад ня можа дагадацца, што адзінай здаровай разьвязкай як рэлігійнай так і нацыянальнай праблемы было-б назначэньне беларускага каталіцкага Біскупа. Аб тым, што мы не па-

мыляемся, сьведчыць сьвятар з Польшчы, які нядаўна зьведаў Савецкі Саюз і апісаў свае ўражаньні ў польскім замежным часапісе «Культура» (нр. 314, Парыж, 1973, стр. 54—67).

Аўтар артыкулу скрываючыся пад мянюшкай Я. Мірскага захопліваецца пабожнасьцю вернікаў у Беларусі, якія ў роспачы бяз сьвятара нават адпраўляюць набажэнства. Ён-жа між іншым піша: «Малодшае пакаленьне дзеля рэлігійнага невуцтва і дзеля цяжкасьцяў даезду да касьцёла, а такжа *дзеля няведаньня польскай мовы,* становіцца рэлігійна абыякавай». А ўсёжтыкі аўтар у тым самым артыкуле называе айца Ўладыслава Чарняўскага беларускім нацыяналістам, бо той наперакор нешматлікіх палякаў або апалячаных беларусаў гаворыць казаньні і моліцца пабеларуску. Супроць усялякай логікі і маралі накідваецца на а. Чарняўскага польскі эндэк і ня дзіва, бо для яго Касьцёл мае служыць вылучна польскасьці і таму ён з сумам паўтарае: «Адзінай апорай польскасьці і каталіцкасьці на Беларусі ёсьць няшматлікія польскія касьцёлы».

Вось-жа тыя няшматлікія «польскія» касьцёлы да гэтага часу падтрымоўваюць г. званых палякаў у БССР, якіх родная мова ёсьць беларускай. Беларусы аднак — дзе-б яны не знаходзіліся — шчыра жадаюць, каб якнайхутчэй зьніклі ў Беларусі «польскія» касьцёлы, а асталіся каталіцкія, хіба што засьляпеньне польскага духавенства угробіць і «польскія» касьцёлы і каталіцкае веравызнаньне.

*

Для цікавасьці чытачоў прыводзім тут схэматычна даныя савецкай статыстыкі, зь якой можна бачыць колькі, дзе і якога насяленьня лічыць сваей роднай мовай беларускую. Пэўна-ж за праўдзівасьць і дакладнасьць яе адказнасьць падае вылучна на савецкіх статыстыкаў.

**Палякі, жыхары БССР, ужываюць за сваю родную мову:**

| | Берасьц. обл. | Віцебск. обл. | Гом. обл. | Гродзенск. обл. | Мінск | Мінск. обл. | Магіл. обл. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Польскую | г. н. 3,058 | г. н. 900 | г. н. 381 | г. н. 13,149 | 697 | г. н. 500 | г. н. 188 |
| | в. н. 1,430 | в. н. 1,961 | в. н. 174 | в. н. 28,131 | | в. н. 786 | в. н. 110 |
| Расейскую | г. н. 5,188 | г. н. 1,734 | г. н. 1,138 | г. н. 19,405 | 4,514 | г. н. 1,297 | г. н. 1,457 |
| | в. н. — | в. н. 511 | в. н. 157 | в. н. 4,160 | | в. н. 419 | в. н. 99 |
| Беларускую | г. н. 24,188 | г. н. 19,728 | г. н. 1,061 | г. н. 33,695 | 4,154 | г. н. 28,701 | г. н. 955 |
| | в. н. 17,379 | в. н. 16,794 | в. н. 1,824 | в. н. 177,809 | | в. н. 25,371 | в. н. 305 |
| Іншыя мовы | г. н. 57 | г. н. 26 | г. н. 44 | г. н. 40 | 50 | г. н. 41 | г. н. 21 |
| | в. н. 25 | в. н. 16 | в. н. 62 | в. н. 118 | | в. н. 18 | в. н. 10 |

Падсумаваўшы атрымоўваем наступны лік:

| | гар. насяленьне | вясковае насяленьне |
|---|---|---|
| родная мова польская: | — 17,443; | — 32,592 |
| „ „ расейская: | — 33,658; | — 6,002 |
| „ „ беларуская: | — 52,938; | — 239,482 |
| „ „ іншыя мовы: | — 236; | — 249 |
| | 104,275; | 278,325 |

---

*І. Эскрыва*

# Дарога

Найбольш пашыраюцца на сьвеце кнігі Сьвятога Пісьма. Пасьля іх ідзе кніга «Сьледамза Хрыстом», — старая кніга, але яна не старэе, бо найлепш аддае духа Евангельля: падае Хрыстовыя думкі ў жыцьці практычным — проста і сардэчна. Але ў апошнім часе прагрымела кніга самая навачасная, што называецца «Дарога»: яе перакладаюць на розныя мовы, бо яна гаворыць даступна, цікава і практычна да чытача нашага часу — ў духу Евангельля.

Аўтарам гтае кнігі ёсьць каталіцкі сьвятар Ёза-Марыя Эскрыва, гішпанец, доктар права і тэалёгіі. Спачатку ён працаваў у бедных

парахвіях у Мадрыдзе, але пасьля здружыўся з студэнтамі. Але зараз паклікалі яго на прафэсара ў духоўных сэмінарыях у Мадрыдзе і ў Сарагоссе, а пасьля ў Рым. Нарадзіўся Эскрыва ў 1902, а ў 1928 ужо залажыў арганізацыю «Опус Дэі». Цяпер прабывае стала ў Рыме, як кіраўнік гэтага «Опус Дэі». Гэтая арганізацыя іграе ў Гішпаніі вялікае значэньне, а нават урад прабаваў уцягнуць іх у сваю работу палітычную і былі назначаныя міністры з «Божага Дзела»; аднак ня змог урад утрымаць «Опус Дэі», ані яны ўтрымацца на ўрадах гішпанскай дыктатуры і мусілі разыйсьціся, бо «дарога» — «Опус Дэі» зусім не падыходзіць да палітыкі цяперашняга ўраду ў Гішпаніі.

*

Прычына чаму кніга Эскрывэ «Дарога» так разыходзіцца ў розных мовах? Пераложана на дзесяткі моваў, нават на японскую і на кітайскую і на іншыя.

Мы ўжо пробавалі даваць выняткі з «Дарогі» ў «Божым Шляхам» і чытачы вельмі зацікавіліся зьместам. Ведама, найлепш было б нам яе перакласьці на нашую мову, аднак нам немагчыма справіцца з коштам такога выданьня, бо нашая эміграцыя не асіліць такіх выдаткаў. Ну, каб ні выдаткі на алькаголь і табак, дык шмат больш мы змаглі б выдаваць і чытаць . . .

Тымчасам аўтар «Дарогі паказвае, што зусім ня трудна пагадзіць сваё жыцьцё з Евангельлям, бо ня трэба пакідаць сваіх абавязкаў, працы, ні службы; а нават ня трэба лішне маліцца, пакутаваць, ані хадзіць смутным. Толькі трэба зьвярнуцца ў практычным жыцьці да Хрыста — так у працы, як і ў адпачынку; так у труднасьцях, як і ў вясельлі, а гэта давяло б чалавека да таго, каб стаўся сапраўдным чалавекам, годным для Бога і для людзей, чэсным, справядлівым, трэзвым, — адным словам, — вартасным для грамадзтва, а пасьля сьмерці — для збаўленьня душы.

Мы жывём так, як бы Бог быў далёкім ад нас; але Бог ёсьць пры нас і з намі, а толькі мы адбіваемся ад Бога. Ці гэта разумна? Стварыцель наш — Бог, Збавіцель наш — Хрыстос, а Вучыцель наш Дух Сьвяты. Дык пабачым, што нам гаворыць «Дарога»?

*

1. Няхай ня мінае тваё жыцьцё бясплодна. Будзь дзейны і карысны. Пакінь па себе памяць. Сьвяці блескам Веры і Любові. Апостальскім жыцьцём выцірай брыдкія і брудныя сьляды, пакіненыя паскуднымі сяўбітамі ненавісьці.

2. О, як я хацеў бы, каб ты вёў сябе так і гаварыў гэтак, што людзі, бачучы цябе і слухаючы, гаварылі: «Гэты чалавек чытае жыцьцё Хрыста!»

3. *Павага.* Ты ня прыкідвайся дзіцяткам. Ня строй мінаў ветранай дзяўчыны. Твае паводзіны няхай паказваюць супакой і апанаваньне душы.

4. Не гавары: «Я ўжо — такі . . . Такі ў мяне характар». Не, гэта паказвае, што ты характару не маеш. Ты будзь мужчына!

5. Навучыся казаць: Не!

6. Адвярніся ад спакусьніка, калі табе шэпча на вушка: «На што ты ўтруджаеш сабе жыцьцё?»

7. Вызвалі сябе з пустых мяшчанскіх паглядаў. Шырака адчыні сваё сэрца — аж яно станецца любячым — хрысьціянскім. Не трапячыся, як курыца, калі ты можаш узь-

8. *Супакой і пагодлівасць.* На што ты траціш супакой, бо гэтым грашыш перад Богам, турбуеш людзей і сабе творыш прыкрасьць . . . і усёроўна мусіш пасьля пагадзіцца?

9. Тое, што тю сказаў перад хвілінай, ты скажы іншым тонам, бяз гневу: ты ўмацуеш сваё палажэньне дый не абразіш Бога.

10. *Не паддавайся парывам,* калі цябе агорне ўзбурэньня, бачучы злачынства. Пачакай да заўтра. Тады спакойна і з дабратой зьвярні праціўніку ўвагу, — ты больш скарыстаеш адным добрым словам, чым трохгадзіннай сваркай. Ты валодай сабою!

11. *Воля. Энэргія. Прыклад.* Што трэба зрабіць, зараз зрабі! Бяз хістаньня, не аглядаючыся назад. Інакш Вялікая Тарэса ня была бы — Сьвятой Тарэсай, ані Сьвяты Ігнат ня бы Сьвятым . . . Бог і адвага!

12. У перашкодах мусіш напружыць сілу. Божае помачы табе не забракуе. Перакрочыш горы. — Ці ж гэта так важнае, што часова ты мусіш агранічыць сваю актыўнасьць, калі пазьней, як нацягнутая спружына, ты дасягнеш далей, чым перш табе мроілася?!

13. Адгані ад сябе лішнія думкі: самае вялікае цяпер, што ты дарма траціш час.

14. *Не траць ні часу, ні энэргіі* — яны належаць да Бога — не шукай каменьняў, каб адагнаць сабак у дарозе. Проста, не зьвяртай на іх увагі.

15. Не адкладвай работы на заўтра.

16. Ці будзеш ты бяздзейны? Як шмат такіх ёсьць! . . Ты нарадзіўся на тое, каб праводзіць іншым. А ты можа будзеш «летнім?» Трэба спакорыцца прад Хрыстом, а Ён узьнясе цябе і запаліць агонь Любові.

17. Не паддавайся слабасьці характару, калі бракуе табе станоўкасьці і зьмяняеш без патрэбы работу або павярхоўна ўсе робіш, бо ты — лёгкамысны. — Помні тое, калі на

заўтра адложыш паправу, дык дні твайго жыцьця будуць пусты, а ты будзеш, як лялечка, нічога не варты.

18. Ты упіраешся на тое, каб жыць пустасьвятам, марнуючы час на глупствы, бо ты — баязлівец і больш нічога! Ці ж нельга назваць баязьліўцам чалавека, што не адважыцца змагчы самога сябе?

19. *Сіла волі.* Гэта ёсьць прыкмета вельмі важная. Нельга лёгкаважыць справаў дробных, якія ўсё ж маюць сваю вагу і сэнс. Калі не пазволіш сабе на такія дробязні, дык узмацуеш з помачай Божай сваю волю і так станешся панам самога сябе. А тады зможаш стаць правадюром... кіраўніком, камандуючым, — пацягнуць за сабою іншых. Весьці іх сваім прыкладам і словам, дасьведчаньнем і развагай.

20. — Нярaз спрачаешся з рознымі людзьмі, з рознымі характарамі. Інакш жыць немагчыма, бо ты ня ёсьць залатая манэта, якая падабаецца ўсім. Зрэшты ты гэтак вызбываешся заганаў характару, бо так шліфуеж свае канты і калючкі. У такіх спрэчках выробляецца характар, набіраецца сіла волі, вытрываласьці і развагі, у лучнасьці з гнуткасьцяй і з хрысьціянскай любоўю. — Бо каб усе — і ты і іншья — мелі мягкія характары дый былі саладжавымі, як прысмакі з крэмам, дык напэўна ты ніколі не дайшоў бы да гонару сьвятасьці.

21. *Апраўданьне.* О, заўсёды можна знайсьці апраўданьне, каб ня выканаць абавязку! Заўсёды бывае нямала вымовак там, дзе не маем рацыі. Аднак заўсёды належыць рабіць сваё, не зважаючы на адгаворкі.

22. *Будзь сільны.* Будзь мужчына! Адважны. А далей... будзь сьвятым.

23. Што гаворыш? Што ты ня можаш здабыцца на большае? Хутчэй скажы, што ня можаш зрабіць менш!

24. *Ты славалюбны.* Імкнешся да веды, да ўлады, да вялікага дзела! Ну, гэта добра, гэта дасканала. Але... ў імя Хрыстовае...

25. *Не мяшайся ў спрэчкі.* Рэдка з гэтага вынікае яснасьць, бо ўсё прытупляецца запальчывасьцяй.

26. Жанімства — гэта сьвяты сакрамант. Калі прыйдзе час, каб у яго ўвайсьці, няхай твой духоўны праваднік пакажа табе адпаведную кніжку. Такім спосабам ты прырыхтуешся да таго, каб лепш выконваць сямейныя абавязкі.

**МАЛІТВА*)**

(Верш-песьня)

Божа наш, дай нам пяяць
Моц і розум Твой няспынна.
Прад Табой ляжыць зямля
Ніцма й славіць Твае чыны.
Гінуць сьветы й чалавек,
Ты-ж як быў, так будзеш век!

І пракрокаў галасы
Й хор Апосталаў Хрыстовых,
Кроплі дробнае расы,
Гул зялёнае дубровы —
З дня у дзень, і з году ў год
Славяць моц Тваю, Гаспод!

Жабракі, уладары
Ўсіх зямных багацьцяў пышных,
І малеча, і стары
У захоплені нясьцішным
Славяць, славяць Цябе ўсьцяж,
Госпад Бог, пакуль жыцьця!

Войча наш, Магутны Бог,
Валадар нябёс прадонных!
Сьмерцяй Сын Твой перамог
Сьмерць, сьвет вызваліў ад скону,
Збаўца наш адзіны Ты,
Бог Сьвяты, Сьвяты, Сьвяты!

Бог-Хрыстос, Спадвечны Сын
Божы, што зышоў з Узвышаў,
Дай Царкве Сьвятой пачын,
Вечны голад наш суцішыў —
Загасі ў нас грэх і зло,
Дай, каб больш іх ня было!

Вечны, Мудры Дух Сьвяты,
Ты нам розум даў і веру,
Дай навек нам не астыць,
Дай навек не знаць зьняверы.
Навучы, як трэба жыць,
Нашай працы памажы!

Божа ў Тройцы, ня кідай
Нас-жа ў смутку і нядолі,
Быць Тваім Народам дай,
У Табе шукаць патолі,
Дай нам веру ў прышлы час,
Божа, будзь навек між нас!

*) Пераклад з нямецкага — Н. А.

# З царкоўнага жыцьця

СЬВЯТЫ ГОД

1975 год зьяўляецца юбілейным, Сьвятым Годам. Ён прысьвячаецца памяці адкупленьня чалавечага роду Ісусам Хрыстом. Гэты юбілей, адменны ад папярэдніх, будзе сьвяткавацца ў працягу двух гадоў: у 1974 у паасобных дыяцэзіях каталіцкіх, а ў 1975 у Рыме, дзеля праяўленьня асаблівай лучнасьці Каталіцкай Царквы з Айцом Сьвятым, наступнікам Апостала Пятра.

Духоўныя ласкі або адпусты з нагоды юбілею могуць атрымаць вернікі ня толькі ў Рыме, але і ў сваіх дыецэзіях, наведваючы сьвятыню вызначаную біскупам і молючыся за Айца Сьвятога. Найбольш адпаведнымі малітвамі ёсьць: «Ойча наш», «Прывітана будзь Марыя», вызнаньне веры (адгаварваючы сымбаль веры). Каб атрымаць г. зв. поўны адпуст, трэба адбыць споведзь і прыступіць да сьвятога Прычасьця.

МАЛІТВА НА СЬВЯТЫ ГОД

(Уложоная Паўлам VI-ым)

Госпадзі Божа Ойча, Ты хацеў праз сьмерць і ускрашэньне Свайго Сына Ісуса Хрыста прымірыць увесь чалавечы род і людзей адных з другімі. Выслухай просьбу свайго народу ў гэтым Годзе ласкі і ратаваньня.

Няхай Твой Дух жыцьця і Сьвятасьці адновіць нас у самай глыбіні нашае існасьці. Аб'яднай нас у ва ўсім нашым жыцьці з Ускрэсшым Хрыстом, бо Ён ёсьць першым Братам і Збавіцелям.

З усімі хрысьціянамі мы шукаем дарогі жыцьця, якую паказвае Сьвятое Евангельле. Утрымай нас у вернасьці навуцы Царквы і ў чуллівасьці на патрэбы нашых братоў. Дай нам моц да працы для прымірэньня, лучнасьці і супакою. Няхай тыя, якія шукаюць Бога і яшчэ Яго не знаюць, адкрыюць у Табе крыніцу святла і надзеі; а тыя, што працуюць для другіх, сілу. А тыя, што знаюць Цябе, няхай шукаюць далей, каб дазнаць глыбіню Тваей Любові.

Прабач нашыя грахі, паглыбі нашую веру і распалі надзею; ажыві нашае сэрца любоўю да нашых братоў, каб ішлі сьледам Хрыста, як улюблёныя твае дзеці. З дапамогай Марыі, Божае Маці, няхай Твая Царква будзе Знакам і Сакрамантам збаўленьня для ўсіх людзей, каб увесь сьвет паверыў у Тваю Любоў і Праўду!

Ойча, у Сваей дабраце пачуй у словах свайго народу малітву Сьвятога Духа, Які праслаўляе Тваю хвалу і збаўленьне людзей, праз Ісуса Хрыста, нашага Госпада, Які ёсьць Дарогай і Праўдай і Жыцьцём праз усе вякі. Аман.

*

«СУПАКОЙ ЗАЛЕЖИЦЬ АД ЦЯБЕ!»:
Пад гэтым заклікам сьвяткаваўся Дзень Сусьветнага Супакою 1-га студня. Адбываліся апэцыяльныя малітвы пра супакой і гаварыліся пропаведзі аб ім. Рымскі Папа ў сваей прамове ў гэтым Дню зьвярнуў асаблівую ўвагу, што супакой на сьвеце залежыць ад людзей на становішчах, ад урадаў, але таксама ад кажнага чалавека. Кажны ствараe сваім жыцьцём, працай, гаворкай публічную апінію, якая настройвае і вядзе сьвет да згоды, або да вайны. Інакш кажучы, справа супакою — гэта справа сумленьня адзінак і народаў. Таму неабходна, каб кажны чалавек выпрабляў у себе і ў другіх сапраўдную любоў і сумленьне праз выхаваньне і добрае спрыяньне. Асабліва ляжыць такі абавязак на тых, якія могуць карыстаць з сродкаў масовага пераказу, як прэса, радыё і тэлевізія. Праз гэтыя сродкі фармуецца грамадзкая думка і апінія.

*

ДУХОВЫЯ І ДАЧАСНЫЯ ПАТРЭБЫ ЭМІГРАЦЫІ: Пры канцы мінулага года адбыўся ў Рыме Сусьветны Кангрэс наконт душпастырства сярод эміграцыі. Узялі ў ім удзел прадстаўнікі розных краін. У самой Эўропе лічыцца блізка 10-ці мільёнаў рабочых і палітычных эмігрантаў. Найбольш іх у Нямеччыне, у Францыі і ў В. Брытаніі.

Павал VI ў прамове да Кангрэсу падкрэсьліў, што эмігранты маюць поўнае права ў справах рэлігіі і да прывілеяў і да сацыяльнае дапамогі, асабліва асэкурацыі. Біскупам прыпомніў абавязак рупіцца пра духовыя патрэбы эмігрантаў у сваіх дыяцэзіях, каб мелі сваіх сьвятароў, месца для набажэнства і інш. з захаваньнем іхняе мовы і рэлігійных звычаяў. — Зьвертаючыся да народаў, Папа сказаў: «Ці ж ня можна сказаць, што праз гэтае зьявішча так масовай цяпер эміграцыі Бог заахвочвае зьняць усялякія бар'еры расізму і адкінуць палітычны і эканамічны эгаізм?» А хрысьціяне ў асаблівы спосаб забавязаны эмігрантам памагчы, — у асобе іх прыняць Самога Хрыста, які калісь скажа: «Быў Я падарожным, а вы прынялі Мяне» (Мат. 25, 36). — «Такім чынам вы унікнеце абыякавасьці і дыскрымінацыі».

*

ПРА АБ'ЕДНАНЬНЕ ЭЎРОПЫ: Калі прыбыў з візытай у Ватыкан Прэзыдэнт Эўрапэйскага Парляманту, Папа, прамаўляючы да яго, выявіў сваё шчырае прызнаньне і маральную падтрымку для справаў аб'еднаньня Эўропы. Неабходна стварыць супольны фронт супраць сацыяльных і гуманітарных цяжкасьцяў, у якіх цяпер знайшлася Эўропа. Спалучаюцца таксама праблемы ахароны жыцьця прыроды перад зьнішчэньнем і забруджэньнем, праблемы эміграцыі і выхаваньня маладога пакаленьня. Усё гэта вымагае вялікага супольнага намаганьня, працы і ахвярнасьці.

✻

БІБЛІЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ: З ініцыятывы эвангелікаў Аўстрыі апошняя нядзеля месяца сьвяткуецца як БІБЛІЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ. Удзел у гэтым прыймаюць хрысьціяне ўсіх вызнаньняў, таксама і каталікі. Мэта гэтае Нядзелі: заінтарэсаваць хрысьціян Сьвятым Пісьмом і заахвоціць іх да чытаньня Бібліі ў сем'ях. «Біблія, кажуць біблісты, ёсьць фундамантам веры, крыніцай духовай адновы і Навіной нашага Збаўленьня».

✻

ЮГАСЛАВІЯ: Канфэрэнцыя каталіцкіх Біскупаў зьвярнулася да ўраду з пэтыцыяй, каб у праекце новае Канстытуцыі ясна акрэсьліць права і свабоду рэлігіі, вольнасьць сумленьня і рэлігійнае выхаваньне дзяцей і моладзі, а таксама рамонт сьвятыняў і пабудова новых.

✻

СУПОЛЬНЫ ПЕРАКЛАД БІБЛІІ: Над супольным перакладам БІБЛІІ працуюць вучоныя біблісты: каталіцкай, пратэстанскія і праваслаўныя, каб найбольшы лік людзей мог карыстаць з гэтага перакладу. Адказнымі пры гэтым будуць Сусьветнае Біблійнае Таварыства і Сакратарыят для Спраў Адзінства Хрысьціян. Яны гуртуюць у сабе выдатных біблістаў і іншых вучоных, а таксама працаўнікоў друку. Ужо да гэтага часу вышаў у супольным перакладзе Новы Запавет і Псалмы на 119 мовах. Трэба адзначыць, што само Біблійнае Таварыства выдае Біблію ў 600 мовах! Гэта будзе вялікая дапамога ў місыйнай працы, дзе нястача Сьвятога Пісьма вельмі адчувалася.

✻

ТЫДЗЕНЬ МАЛІТВАЎ ПРА АДЗІНСТВА ХРЫСЬЦІЯН: Як кажны год, так і сёлета ў студні ад 18 да 25-га адбываліся ў хрысьціянскіх сьвятынях супольныя малітвы, чытаньне Бібліі і прамовы, «каб усе былі адно». Праўда, ня было даўнейшага энтузіязму і масовасьці як раней. Так што некаторыя пэсымісты крытыкавалі самую ідэю. Аднак у сапраўднасьці ёсьць сталы поступ: экумэнізм жыве, хоць менш відавочны. Затое ён ідзе ў глюб хрысьціянскіх душаў. Для прыкладу, успомнім супольныя студыі над Сьвятым Пісьмом, пераклады, супраца між Каталіцкай Царквою і Сусьветнай Радай Цэркваў, частая сустрэча Галоваў розных цэркваў, супольныя дэкларацыі між каталікамі і англіканамі — ажно некаторыя розьніцы ў веры сталі узгодненыя. У сусьветных катастрофах, паводках, заразах, землятрусах і інш. няшчасьцях людзтва зьяўляюцца хрысьціяне з супольнай дапамогай.

Усё гэта збліжае людзей, памагае шанаваць бліжніх іншых рэлігіяў і пракананьняў, пазбывацца недаверу і упярэджаньняў, што згушчаліся стагодзьдзямі і настрайвае да любові і адзінства веры. Да гэтага вядзе Сьвяты Дух. Ад нас ён вымагае цярплівасьці і малітвы, пакоры ў адносінах, «каб усе былі адно».

✻

МАРЫЯНЫ: Пры канцы мінулага году Закон Марыянаў меў у Рыме свой Кангрэс з нагоды Юбілею 300 гадоў існаваньня. Былі ўчасьнікі з многіх краёў: Эўропы, Амэрыкі і Аўстраліі. Папа, прамаўляючы на аўдыенцыі, сардэчна прывітаў Марыянаў сабраных у Рыме. Заахвоціў да падтрыманьня культу Маці Божай — Прачыстай-Непарочнай — Нявінна Пачатай і сярод сваіх законнікаў і сярод вернікаў. Да Марыянаў належаць розныя народы, між іншымі і беларусы. Задачай беларусаў ёсьць працаваць сярод свайго народу і рыхтаваць сваіх сьвятароў для яго. — На вялікі жаль і трывогу Марыяны-беларусы пацярпелі ў II-ой вайне вялізарны упадак; пад Польшчай яшчэ перад самай вайной, калі ў 1938 былі зьліквідаваныя нашыя Законныя Дамы у гор. Друі і ў Вільні — Дом Студыяў. У рэзультаце гэтага а. Я. Гэрмановіч быў змушаны выехаць у Варшаву, але хутка стуль у Рым — ажно ў маі 1939 г. — у г. Харбін, дзе прыбываў да арэшту 22. XII. 1948 г.! І а. Андрэй Цікота, быўшы Генэрал Айцоў Марыянаў (1933—1939), таксама ў восені 1939 прыехаў, як Архімандрыт на месца загінуўшага ў Саветах а. Абрантовіча, Архімандрыта. З Харбіну а. Цікота разам з а. Я. Г. і з а. Тамашом Падзявай арыштаваны і трапілі ў турму у г. Чыта; а за год перавезеныя ў г. Тайшэт, трапілі ў лягер АнгарЛаг. Там у шпіталі а. Андрэй Цікота 1952 г. памёр. З тых, што трапілі ў Польшчу, памярлі: а. К. Смулька, а. Я. Дашута, а. В. Хамёнак і а. А. Падзява. Іншыя спольшчыліся, а.а. Журня і Т. Падзява прыбылі ў Лёндан з Польшчы. — Біскуп Ч. Сіповіч у Лёндане зарганізаваў беларускі Законны Дом Марыянаў «Марыян Гаўз».

Божа, памажы! Сьвятая Прачыстая Дзева Марыя, заступіся за нас грэшных!...

✻

СПРАВА ЕРАЗОЛІМЫ: У пачатку гэтага году Папа прыняў на аўдыенцыі Галоваў дзяржаваў: Абісыніі, Судану, Замбіі, Лібіі і ніш. прадстаўнікоў. Тут выступіла справа супакою на Блізкім Усходзе і праблема Еразолімы. Папа уважае, што найлепш было б стварыць праўны статут гэтага гораду, бо Еразоліма ёсьць рэлігійным пунктам цэнтральным для хрысьціян, магамэтанаў і для жыдоў; а павінен быць даступным для ўсіх паломнікаў. Аднак усе стараньні Рымскага Папы разьбіваюцца дзеля адпору і крытыкі жыдоўскае стараны, якія уважаюць, што Ватыкан лішне патрымлівае арабаў.

✻

ВІЗЫТА ПРАВАСЛАЎНАЙ ДЭЛЕГАЦЫІ: У канцы прошлага году прыбыла ў Ватыкан да Папы дэлегацыя Праваслаўнае Царквы з СССР. На чале яе стаяў Уладзімер Дзімітроў, Рэктар

Багаслоўскае Акадэміі ў Загорску. Пры іхняй візыце быў прысутны Кардынал Вільдэбранд, старшыня Сэкрэтарыяту для справаў адзінства хрысьціян.

*

КАНГРЭС ПАСЬВЯЧАНЫ СЬВЯТАРСКІМ ПРЫЗВАНЬНЯМ: Нядаўна ў Рыме адбыўся Кангрэс у справе сьвятарскага прызваньня. Прысутных было 80 дэлегатаў ад краёў, дзе патрабуюць больш сьвятароў, а іх вялікі недахоп. Гаварылі аб раформе сьвятарскіх студыяў у сэмінарыях, адпаведна патрэбе вернікаў. Таксама была мова, што сям'я і парахвія могуць зрабіць для сьвятарскіх прызваньняў? На аўдыенцыі учасьнікаў Кангрэсу Папа зьвярнуў увагу на вялікую патрэбу духовых вартасьцяў у сьвятара. Кангрэс падкрэсьліў патрэбу дасьледаваць матывы, для якіх кандыдаты паступаюць у сэмінарыю, каб памагчы ім выбраць належную дарогу жыцьця.

*

ПРЫПЛЫЎ СЭМІНАРЫСТАЎ: У Кангрэгацыі для справаў місіі адзначылі, што ў духоўных сэмінарыях на місіях лік кандыдатаў пабольшыўся на 2.000 асобаў: цяпер у гэтых сэмінарыях налічваецца 8.737 студэнтаў.

## ПРАЕКТ СУСЬВЕТНАГА СЫНОДУ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

Як інфармуе «Эпіскэпсіс» падрыхтоўка ідзе наперад. Паклікана ў Камісію большая колькасьць выдатных багасловаў і экспэртаў. Камісія на Крыце улажыла спісак справаў на Сынод: будуць парушаны справы асьвячэньня, кіравецтва Царквою, адміністрацыі, экумэнізму і інш.

Адносна Асьвячэньня зьвяртаецца увагу на патрэбу і сувязь Эўхарыстыі з жыцьцём. Ляіцызацыя (сьвецкасьць) пранікае ў ва ўсё хрысьціянскае жыцьцё, навет у багаслоўе. Бачыцца абсалютную аўтаномію Аўтакефальных цэркваў. Паўстае патрэба большага павязаньня, большай супольнасьці з экумэнічным Патрыярхатам і стварэньне гарманізацыі Сынодаў, таксама патрэба незалежнасьці ад уладаў сьвецкіх. У экумэнізьме прадбачыцца дыялёг з цэрквамі, якія адыйшлі пасьля Хальцэдонскага Сабору, таксама з Каталіцкай Царквою і з пратэстантамі. Прадбачыцца, што Сусьветны Сынод (ці Сабор) адбудзецца яшчэ ў гэтым дзесятку гадоў.

## 350-ыя УГОДКІ СЬМЕРЦІ СЬВ. ЁЗАФАТА

12 лістапада 1973 г. споўнілася 350 год ад сьмерці Сьв. Ёзафата, Полацкага Арцыбіскупа. Папа Павал VI выдаў спэцыяльнае пасланьне, у якім апісаў жыцьцё сьвятога і падкрэсьліў ягонае мужства ў душпастырстве. Назваў яго самым выдатным мучанікам Каталіцкае Царквы.

Нарадзіўся ў 1580 г. на Валыні з бацькоў праваслаўных. Вучыўся у гор. Вільні, уступіў у манастыр і стаў сьвятаром. У 1596 г. была уведзена унія — лучнасьць з Каталіцкай Царквою. Ёзафат быў ігуменам у Бытэні, пасьля ў Вільні. Асаблівую ўвагу зьвярнуў на парадак, прасьвету і пабожнасьць паміж манахамі. Хутка быў пасьвячаны на архімандрыта і Біскупа-вікарага ў Полацку дый сам быў назначаны арцыбіскупам. Аднак паміж праваслаўнымі узьнікла заўзятая апазыцыя супраць Ёзафата. У выніку гэтай дня 12 лістапада 1628 г. ён быў у гор. Віцебску забіты у збройным нападзе праціўнікаў, а цела укінутае ў раку Дзьвіну. Пасьля вылаўленае цела з ракі было ўрачыста пахаванае ў катэдры ў Полацку. Дзеля розных войнаў і небяспекі цела сьвятога Ёзафата было перанесена ў гор. Янаў у Польшчы, пасьля ў гор. Вену ў Аустрыі і нарэшце ў базыліку сьв. Пятра пры Ватыкане. У г. 1867 Ёзафат прызнаны сьвятым. Пасьля смерці цела сьв. Ёзафата асталося захаванае ў добрым стане, паміма розных турбацыяў пры перанясеньні.

---

# *З беларускага жыцьця*

## СТАН ЗДАРОЎЯ А. ФРАНЦІШКА ЧАРНЯЎСКАГА

Апошнім часам а. Ф. Чарняўскі цяжка занямог. Летам прошлага году меў прыпадак сэрца і быў праз нейкі час у шпіталі. Прытым будучы пажылых гадоў (нар. 16 лістапада 1893 г.), быў змушаны пакінуць душпастырскую працу, якой займаўся ад 1962 г. пры касьцеле сьв. Язэпа ў Форт Эдвард у дыяцэзіі Альбані, а таксама спыніць выдаваньне беларускага каталіцкага пасапісу «Сяўбіт».

У лістападзе 1973 г. наведалі айца Францішка біскуп Ч. Сіповіч, а. Уладзімір Тарасэвіч, спадары Шукелойць, Бартуль і інш. Калі прышло да заладжаньня справы далейшага пражыцьця, дык спачатку ў паразуменьні з біскупам мясцовай дыяцэзіі было вырашана, што а. Францішак пераедзе ў законны дом айцоў Марыянаў у Лёндане. Пасьля аднак ён зьмяніў свае пляны і выказаў жаданьне перад біскупам Сіповічам, а Ул. Тарасэвічам, а. Бартолюччы, сакратаром мясцовага біскупа, у прысутнасьці свайго адваката і іншых сьвятароў, што станоўка з Амэрыкі нікуды ехаць ня хоча, а ў далейшым астаецца пад апекай амэрыканскага

біскупа. Гэты паслаў хворага а. Францішка у дом старцаў, якім кіруюць законьніцы.

Айцец Францішак Чарняўскі выехаў з Бэльгіі ў Злучаныя Штаты Амэрыкі ў красавіку 1957 г. Ад таго часу, як мог, стараўся падтрымліваць лучнасьць з беларусамі і памагаць ім як добры душпастыр. Жадаем яму поўнага здароўя на пацеху ягоных шматлікіх прыяцеляў і знаёмых.

КУРС БЕЛАРУСАВЕДЫ У ЛЁНДАНЕ

Восьмы год курсаў беларусаведы, арганізаваных Ангельска-Беларускім Таварыствам, пачаўся дакладам яго пачэснага сакратара сп. Г. Пікарды дня 6-га лістапада 1973 г. на тэму: «Пачаткі беларускага графічнага мастацтва». Дакладчык карыстаўся высьвятленьнем некаторых характэрных графічных рысункаў з розных выданьняў беларускіх кніжак.

Наступны даклад адбыўся дня 4-га сьнежня 1973 г. Зрабіў яго др. Н. Лімінг з Лёнданскага унівэрсытэту на тему: «Мова Новага Запавету выданага ў Куцейно ў 1652 г.»

Др. Лімінг — першы з вучоных, які заняўся студ'ямі мовы гэтай рэдкай кнігі, якая цяпер знаходзіцца ў Бібліятэцы Францішка Скарыны ў Лёндане.

12-га лютага г. г. меў даклад а. А. Надсон: «Беларускія малітаўнікі для сьвецкіх асоб з XVI і XVII стагодзьдзя». У часе дакладу высьвятляліся также здымкі, зробленыя з арыгіналаў, якія сяньня знаходзяцца ў розных бібліятэках сьвету.

Усе даклады адбываліся ў зале Бэрлінгтон Гауз у цэнтры Лёндану а гадз. 6,30 вечарам. Вельмі пажадана, каб беларусы паруліліся самі прыходзіць у большым ліку на такія цікавыя даклады і каб да гэтага заахвоцілі сваіх знаёмых чужынцаў. Хтосьці назваў Курсы Беларусаведы беларускім унівэрсьтэтам у Лёндане. Няма сумніву, што даклады чытаюць людзі з належнай падрыхтоўкай і яны не ўступаюць унівэрсьтэцкім лекціям. Дзеля нястачы вышэйшых беларускіх установаў на чужыне, яны ў поўнай меры заступаюць унівэрсытэт.

# Рыбацтва

*Дарагому сябру на рыбацтве Пятрусю — замест вянка на магілу — ахвярую.*

Места Альбаны распалажылася амфіэатрам над партовай затокай, якая называецца Прынцэса Маргарэта. У паветры стаяў духмяны пах ад набухаючых пупушак на дрэвах і ад маладое травы. З затокі пацягнула цёплым вецярком — аж захісталіся высокія эўкаліпты, сярод каторых чарнелі зь белымі парсьцёнкамі на шыі «какату», аўстралійскія птушкі. Ад вільготнай зямлі, прыгрэтай сонцам, падымаўся саладкавы дурман, напаўняючы мяне дзіўным сумам; але цяпер усё цягнула на прасторы акіяну.

Я ж хутка пачаў укладываць у мяшок усялякую снасьць для рыбацтва, захапіў стары гадзіннічак і круціўся па надворку, як ап'янеўшы ад марскога водару і пасьпешна выходзіў з хаты, бо да мора трэ было зрабіць каля трох міляў. Прабіла гадзін пяць. На вуліцы цемнавата. Ад расы сыра. Чуліся крокі рабочага, што сьпяшаўся на працу і толькі ён нарушаў агульную цішыню. Калі першыя касулькі сонца прабіліся праз хмары туману, я ўжо мінаў апошнія хаткі раскіданыя між гародамі. У гародах ляжалі сівымі купінамі авечкі, а дзеякія ўжо брадзілі па траве, рысуючы на расе дзівосныя завітушкі. Здалёку бліснэла мора, напаўняючы маю рыбацкую душу і прыводзячы ў радасны настрой.

Я ўсё больш задумваўся аб тым, чаму я так сарваўся з цёплае пасьцелі дый сьпяшюся да гэтага мора? Праўда, дзень адчыняўся ціхі і цёплы. Сонца ахутанае лёгкай дымкай залівала ўсё навакольле залацістымі праменьнямі, ад чаго ўся акружнасьць здавалася апушчанай у глыбіню спрадвечнай цішыні. Але вось у агульна настроенай цішыні пачуўся струмянёк жывога ручайка, які пераскакваў па каменчыках, якбы баючыся шумна уздыхнуць, кіраваўся ў бок мора. — Усё гэта натсройвала мяне упівацца красой сьвету, так прамудра створанага Вялікім Будаўніком.

*

А жонка насьміхаецца, як толькі ўбачыць, што ў пятніцу складаю вуды і крутаю дзеля рыбацтва.

— Што, ізноў на рыбку? —

— Ага, на рыбку! — З гонарам адказваю ёй і чакаю новых ад яе калючак і прычэпак. А яна: «Рыбачы плеб сабачы...»

— Але рыбачы абед смачны, — кажу ёй моцным тонам. — І ты, зазюлька, дарэмна траціш талент на гэтакія афарызмы...

— Гэта ж ты — пісьменнік слаўны, а не я.

Так мы заўсёды дыскутуем, калі я зьбіраюся на мора. Жонка кусьліва сьмяецца, а я падаю выгляд пакрыўджанага, аднак здаволены мы абое, бо і яна любіць рыбку-параплотку, калі мне удаецца доўля. Дый няхай сабе гамоніць, што хоча: прыходжу на аблюбаванае месца. Тут, сказаў бы, мой рай: забываюся пра клопаты і адпачываю целам і духам. Каб толькі ніхто з чытачоў не захапіў майго пляцу, а гэта — між двух валуноў, дый радасьць у тым, што у гэтым прыстанку — чыстая вада, без падводных зарасьцяў, пясчанае дно — ажно відаць, як

прагульваецца рыбка. А вось цяпер ласкава сьвеціць сонейка, цёплы ветрык рабаціць паверхню вады дый лёгка шапеча прыбой аб гальку, мітусяцца конікі і матылкі. Усё гэта, спавівае цішыня ахутаная пахамі вясны. На дзіва, мне успомніўся духмяны сьвежы беларускі хлеб, калі даставалі булкі з печы, а разынкі выглядалі як жывыя вочкі...

Сядаю на абагрэты сонцам камень з сівымі лішаямі, прыліпшымі як воспа да цела. Тройчы шапчу запаветнае заклінаньне: «Лавіся, рыбка, вялікая — найбольшая!», паплёўваю на рабака і закідваю вуду. Нецярпліва чакаю, паглядаючы на паплавок, які калышыцца на ціхіх хвалях. Перада мною праплываюць ахвотнікі на рыбку на сваіх лёгкіх чайках, хто з іх маніцца рыбачыць; але іншыя толькі прабуюць падсмаліць плечы на навагоднім тутэйшым летнім сонцы, а іншыя толькі пляскаюць вёсламі на пустое...

I сапраўды ці ж можа быць лепшы адпачынак, як такая сустрэча з адчыняным акіянам і з гарачым сонцам? З высокімі эўкаліптамі, з аксамітнай травой і веснавымі кветкамі! А кукабара рагоча, бо ўжо паласавалася неасьцярожным паўзуном — ажно, седзячы на высокім дрэве, залліваецца сьмехам ад шчасьця!...

У маім вядзерцы плюскаюцца невячкія рыбкі, якіх тут процьматолькі даставай й не марудзь! Чайкі (птушкі) пралятаюць сярэбракрылымі эскадрамі, лодкі калышуцца на васільковай вадзе; а мне ўжо пара палуднаваць...

Але ці вы ведаеце, што значыць рыбацкі палудзень? Гэта урачысты абрад-цэрамонія, з сьвятарскім натхненьнем, з павагай дый рытуалам. Найперш я распальваю вогнішча, скрабу з рыбкі луску і абмываю. У кацялок кідаю парэзаную булібіну (бяз бульбіны нельга!), кладу рыбу, сыплю соль, даю перцу зернятка і цыбулінку ў меру... О, якая атрымаецца юшка-навварыстая, смачная — аж крыху аддае дымком — аблізыся! З вялізнага валуна цячэ тоненькі струменчык, які выбіў сабе лажбінку і падае цудоўную, чыстую вадзіцу, бо на такой варыцца нашая юшка!

Прызнайцеся, ці вы елі такую рыбацкую юшку? Можа хто асьмеліцца яе ганіць, што нясмачная?! Ня верце!!! Яна смачнейшая за каралеўскую, ведама, што была зварана на берагу мора-акіяну. Ужо нашто мой Пятрусь?...

Вачыце які ён лёгкі на ўспамін. Бо вось ён выходзіць з за вялізнага валуна ,сядае і кладзе свае прылады, а паглядае на кацялок. Бо ён большы рыбак за мяне: ну, мы з ім, хоць і дружны, але і смагла сварымся за добрыя месцы.

— Сядай і еж!, — кажу я. — Здаецца, юшка думком аддае?. — Але, а як у цкбе, рыбачок? ці падчапіў што на кручок?

— О, не! Толькі адна дробязь.

*

Гасьне вогнішча, мы кладзёмся на распалены сонцам валун і зачараванымі вачыма паглядаем у блакітную далячынь — туды, дзе канчаецца вада і неба зьліваецца ў адну блакітную плянку. Так глядзім доўга, не гаворачы ні слова. З такім замілаваньнем чалавек глядзіць толькі на цудоўны абраз Сьвятое Дзевы і на Ейнага Сына... Аж успамінаюцца нам беларускія прасторы, з якімі мы заўсёды лучымся тут на чужыне. — Трапна нехта сказаў: «Гуркаціш ты, мой лёс безгалосы»,

Як на грэблі драўлянай калёсы.
Душу лечаць адны успаміны... —
Вось што значыць жыцьцё без Радзімы!!!

*

Мы з Пятрусём знаёмымі былі здаўна. Разам хадзілі ў школку й сядзелі на адной лавачцы. Аж здарылася адзін год ліхая зіма, — амаль кажны дзень бушавала завея і завіруха, дык хадзіць яму ў школу стала немагчыма (меў ён дзьве вярсты да Дэлятыч) — аж ён мусіў у нас кватэравацца. Дык і спалі мы пад адным кажушком.

Нарэшце завіруха сусьветнай вайны дзіўна нас злучыла ў падобных абставінах: мы апынуліся разам у Нямеччыне! Ізноў так яно круцілася, што мы спатkаліся пасьля вайны ў адным лягеры, дзе несьлі супольнае гора. Пасьля адным параплавам прыбылі ў Аўстралію. Далей: разам несьлі пакуту на чугунцы, а там была вада і каша — адно гора наша...

Аж спаткаліся тут на рыбацтве. Бедны чалалек рыбачыў... Астатнюю юшку еў са мною пару тыдняў таму. Пасьля, як пайшоў рыбачыць, то і па сягодня яго няма! Аўта знайшлі на заўтра, але яго ніхто нідзе не бачыў. Забрала яго няшчаснага няведамая хваля і пацягнула з сабою ў акіян... Вечная памяць!

Аўстралія. Лістапад-Сьнежань. 1973.

*К. Чабатар*

## У РЭДАКЦЫЮ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»

Мы рэгулярна атрымоўваем Ваш выдатны часапіс: «Божым Шляхам».

Магу Вас запэўніць, што ён ёсьць вельмі карысны ня толькі для працаўнікоў нашага Інстытуту, але таксама для шматлікіх замежных вучоных, якія наведваюць нашу бібліятэку.

Ад імя нашага Інстытуту шчыра Вам дзякуем за сталую ахвярнасьць.

З найлепшымі калядніімі пажаданьнямі,
З глыбокай пашанай да Вас,

*К. Індэку*
*Галоўны Бібліятэкар*
*Папскага Ўсходняга Інстытуту ў Рыме.*

Рым, 7. XII. 1973,

## *Пішуць да нас*

АМЭРЫКА МАССАЧУЗЭТ. Аб падзеях у нашым краі магу напісаць, што крыху папсавалася, але далёка да таго, як на Усходзе пішуць праціўнікі і проста трубляць, што ў Злучаных Штатах людзі мерзнуць без апалу, мучацца без сьвятла і сохнуць без ежы — не даедаюць, бо не маюць магчымасьці аплаціць — такі недахоп усяго неабходнага! Праўда, цэны падскочылі на ўсіх таварах, аднак не ў такой меры, каб навалілася катастрофа. Апал прывозяць, як і даўней і ня трэба выклікаць. Бэнзына падаражэла і часам забракуе на станцыі, дык мусіш зьвярнуцца да іншай. Некаторыя звальваюць віну на адміністрацыю, а іншыя на мільярдэраў, бо наганяюць цэны на ўсё.

Спадзяёмся, што ўсё унармуецца і жыцьцё пойдзе, як заўсёды бывала. *Л. Н.*

⁎

ЧЫКАГО. Пісалі да нас, што ў Вільні памёр ЯНКА ШУТОВІЧ 9 XII 1973 г. і пахаваны 11 XII на магільніку ў Павільнюсе.

На дварэ ў нас зіма, мароз, сьнег. А як Вы маецеся? Як перажываеце страйкі і нястачу энэргіі — электрыкі? Некаторыя нашыя пасылаюць сваяком у Англію сьвечкі для асьвятленьня — мо й Вам прыслаць? Як агрэваеце памешканьне? У нас найбольш адчуваецца ашчаднасьць газаліны на аўта, далёка не паедзеш, бо ў нядзелю амаль нідзе ня купіш.

Бацькі трымаюцца добра й чакаюць Вас. Дзякуем за малітвы! Далучаю верш-песьню (пераклад з нямецкага Н. Арсеньнявай).

На музэй дашлём грошы чэкам. *М. В.*

⁎

НЯМЕЧЧЫНА. Звычайна споведзь людзі адбываюць перад Вялікаднем, але я мушу гэта зрабіць перад Калядамі, каб хоць крыху аблягчыць сваё сумленьне. Даўно зьбіраўся падзякаваць Вам за ветлівыя хажаданьні з нагоды нараджэньня нашае дачушкі. Дый маім адзіным кантактам з беларускім жыцьцём ёсьць часапіс «Божым Шляхам»: праз яго даведваюся аб навінах у нашым беларуска-грамадзкім жыцьці і якраз даведаўся пра Ваш юбілей. Прыйміце нашыя найшчырэйшыя пажаданьні: няхай Магутны Бог мае Вас у сваей апецы на многае леты! А наш «Божым Шляхам» няхай цьвіце і красуе.

З вялікім сумам даведаўся аб сьв. памяці — сьмерці — Антона Цьвячкоўскага, вялікага беларускага патрыёта. Я ж ведаў яго вельмі добра з нагоды і з часоў маей настаўніцкай працы за нямецкай акупацыі, у інспэктарацe ў Браслаўі і ў пачатковай школе ў Зарсьлях каля Друі. Мы часта з ім сустракаліся пры розных нагодах. Таму мяне вельмі цікавіў яго далейшы лёс.

Пасьля доўгіх гадоў пакуты ў Сібіры Цьвячкоўскі вярнуўся з падкошаным здароўем. Пытаньне, за што ён там цярпеў? Ці ж затое, што ратаваў жыцьцё нявіннага беларускага насельніцтва ад пэўнае згубы з боку нямецка-савецкіх акупантаў? Якая іронія лёсу! Чыстая хлусьня і несправядлівае абвінавачаньне савецкіх уладаў. Я сам ёсьць сьветка таго адважнага акту Антона Цьвячкоўстага, калі ён абараніў найменш пару тысяч чалавек ад згубы ў суседніх вёсках, — у Стрымкох, Лупандах, Зарэччы і прылеглых з другога боку Дзьвіны. Яны якраз падпалі пад самасуд і тэррор савецкіх партызанаў, якія мардавалі нявінных людзей. А ў сьлед ім набегалі нямецкія каральныя аддзелы і палілі, памстуючы, цэлыя вёскі разам з людьмі!..

Толькі дзякуючы адважнай і рашучай акцыі і пратэстам Антона Цьвячкоўскага і маей асабістай інтэрвэнцыі, дзе мы, рызыкуючы сваім жыцьцём, паўстрымалі нямецкі тэррор. Гэта адбывалася ў пачатку сакавіка 1943 году ў м-ку Прыдруйску, дзе камандаваў нямецкі штаб каральных аддзелаў. Там Цьвячкоўскі выступаў як перакладчык і як прадстаўнік гэтае акругі.

З гэтага бачыцца, якая савецкая справядлівасьць, — дык у імя аглульна-людзкой праўды, што ведама Самому Богу, прашу Вас, дарагі Ойча Рэдактар, зьмясьціць гэтыя радкі ў «Божым Шляхам».

Дый з нагоды 1974 Году пасылаем Вам жаданьні здароўя і памыснасьці на Многая Лета, як гаворыць адзін нямецкі філязоф: «Здароўе — гэта яшчэ ня ўсё але без здароўя ўсё ёсьць нішто». Просім вашых малітваў і аставайцеся з Богам.

Ваш *Чэслаў К.*

---

# Думкі з запісак сьв. пам. Даменіка Аніські

Ня трэба думаць, што любоў бліжняга палегае на тым, каб любіш чалавека другога. Не! Любоў бліжняга сягае глыбей: яна абыймае ўсё чалавецтва. Бо якая ж была б любоў бліжняга — такога ці іншага, калі бы мы ненавідзелі цэлыя народы, або абыякава глядзелі на эксплуатацыю ці на крыўду цэлай клясы грамадзтва, ці на няволю цэлага народу? Дык гэта ня будзе сапраўдная любоў бліжняга, калі хто баіцца скрыўдзіць аднаго чалавека, а зграджа-

ецца з усіскам і з няволяй мільёнаў людзей...

Сапраўдная любоў бліжняга не залежыць вылучна ад пачуцьцяў, але ёсьць дзелавая і паслужлівая; а хрысьціянская любоў — гэта такая, што вынікае з любові да Бога, як сказана: «Любі бліжняга, як самога сябе!» Так, мы хочам сабе дабра, адхіляем ад сябе ўсё шкоднае, няпрыемнае і непамыснае: так мы павінны і любіць свайго бліжняга. Дый таксама тое, што тасуецца да адзінак, адносіцца і да грамадзтваў, бо грамада складаецца з тых самых адзінак. Дык нашыя бліжнія — гэта ёсьць і сем'і людзей, народы і дзяржавы...

Такім чынам грамадзкая любоў — гэта любоў усіх людзей і ўсяго чалавецтва.

Скуль паходзіць такая любоў? Сам Хрыстос — Крыніца ўсялякае праўды, дабра і любові — навучаў: «Новае прыказаньне даю вам, каб вы мілавалі адзін аднаго, як Я мілаваў вас». (Ян 13, 34).

А сьвяты Ян Апостал кажа: «Дзеткі, Мілуйма ня словам ані языком, але ўчынкамі і праўдаю».

*

Хрыстос прышоў на сьвет навучаць і збавіць чалавечы род — усіх людзей — няма вынятку. Хоць у нашых часах вельмі пашыраецца бязбожнасьць і грэшны сьвет кяруецца законамі фальшывымі, дык яны шкодзяць толькі другім, але найбольш сабе: хацелі бы дайсьці да шчасьця, але ідуць фальшывымі дарогамі.

Наогул міласьць бліжняга — гэта ёсьць дабрадзейства для кожнага чалавека і для ўсяго чалавецтва. А з чаго плыве крыўда меншых народаў, што не маюць сілы бараніцца, як і беларусы пераежылі шкоды і крыўды ад розных ворагаў? Дык павінны мы навучыцца шанаваць Бога і Божыя законы і насьледаваць Самога Хрыста, а не нягодных злачынцаў...

*Д. А.*

# Прыслоўі і прымаўкі

*Баль — чорт з печы упаў.*
*Барада вырасла, а розуму ня вынесла.*
*Барані, Божа, ад буры, агню і благое жонкі.*
*Барышы харошы па чужыя грошы.*
*Бачыш, дружа, як гарую: з аднае карчмы ў другую.*
*Баязьліваму адзін пень за тры ваўкі здаўся.*
*Без гаспадара гумно плача, а без гаспадыні — хата.*
*Бойся быка сьпераду, каня — з заду, а дурня з усіх бакоў.*
*Больш каштуюць прыправы, чым стравы.*
*Боты новы, а пяты голы.*
*Бяда не па лесе, а па людзях ходзіць.*
*Бяда па бядзе, як па нітачцы йдзе.*
*Бяда перад вачыма, а сьмерць за плячыма.*
*Бяда хоць мучыць, але жыць вучыць.*
*Бяз пляну і ў хаце заблудзіш.*
*Варыла, не варыла, абы добра гаварыла.*
*Вераб'і крупы зьелі, а сініца ў клетку папала.*
*Відаць па вочках, хто ходзіць па ночках.*
*Восень кажа: ураджу, а вясна — пагляджу.*
*Вось табе хамут і дуга, а я табе ня слуга.*
*Выкінь чорта праз вакно, дык ён праз комін улезе.*
*Вялікае дзіва, што карова чорна, а малако сіва.*
*Вялікі як дуб, а дурны як пень.*
*Гаварыў бы па польску, дый язык колскі.*
*Гаворыў воўк пацеры, а сам пра авечку думае.*
*Гадавала сава дзеці, ды няма на што глядзеці.*

# Жарты з усходняга кірмашу

*Парторг:* — Што нам рабіць з навукай! і з вучонымі?...

*Кандыдат у партыю:* — Трэба пасьпешна замыкаць у вар'яцкі дом, каб не паўцякалі заграніцу!

*

*Навачасная мудрасьць:* У камуне паралюш самы прагрэсыўны.

У камуне карлікі самыя высокія.

У камуне рак самы дэмакратычны.

У камуне ўрад самы практычны... яго крытыкаваць нельга, бо ніколі ня мыляецца.

У камуне грошы самыя дарагія — аж трудна зарабляюцца!

*

*Студэнт І-га курсу да прафэсара:* — Чаму нашыя не даляцелі да месяца?

*Прафэсар:* — Спытайся рэдактара «Праўды»: ён табе скажа чыстую «Прррраўду!...»

*Солжэніцын сказаў:* «ПРАЎДА» лжэ, як нанятая, а РЭДАКТАР, як прыганяты».

*

*Пытаньне:* — Хто чым хваліцца і хто што рэклямуе?

*Адказ:* — Захад хваліцца сваімі таварамі, а Усход сваімі ідэямі.

Але на Захадзе крызыс у грашах і ў таварах, а на Усходзе крызыс у грашах, у таварах і ў... і дэях!

*

*Новая філязофія:* Солжэніцыну хацелі дагадзіць і выкінулі заграніцу, але груба памыліліся!

Лепш было б закінуць на месяц: там цэнзуры няма і пашпарту ня трэба. Затое там — свабода слова, рэлігіі, памешканьня, працы і адпачынку і там вольная думка! бяз турмаў і лягераў.

# „БАЙКІ“ Вінцука Адважнага

(Аўто-рэкляма)

*Пісаць байкі можа кажны,*
*Дык і наш Вінцук Адважны*
*На жыцьцёвыя прыгоды*
*Творыць байкі — так — з нагоды.*
*Што ж паэтам бракавала,*
*Калі так пісалі мала?*
*Іншы гляне, а не ўбачыць:*
*Замест байкі — штось партачыць . . .*
*Наш паэт глядзіць — аж дзіва! —*
*Так глыбока, праніклiва,*
*Што душу людзкую чуе*
*І ўсё верна адлюструе.*
*Людзі кажуць: «Гэта — чары:*
*Ён здабыў цуд-акуляры:*
*Як глядзіць, як ловіць слова,*
*Шах-мах, байка ўжо гатова!»*
*Так пісаў ён больш паў-веку, —*
*(Будзе досыць чалавеку!), —*
*Баяк процьма набярэцца —*
*Ледзь ня трыста, нам здаецца.*
*Плывуць дзеі ў абразох:*
*Вінцук піша аб зьвярох,*
*Як на сцэне байкі баюць*
*І людзей так прадстаўляюць.*
*Перш чытач аж засьмяецца,*
*Аднак зараз зазлуецца:*
*Між зьвярамі, мала-многа,*
*Бачыць скрозь сябе самога.*
*А чытачка напаткала*
*У зьвярынцы, мала-мала,*
*Свой абразік акуратны —*
*Сьмешны, злосны, але здатны.*
*Як кружыў па Божым сьвеце,*
*Вінцук строчыў у сакрэце —*
*То ў Кітаі, то ў Сібіры —*
*Свой расказ цікавы, шчыры.*
*Як за байкі тыя браўся —*
*(Верш удаўся, ці не ўдаўся) —*
*Тых дражніў, другіх абразіў —*
*Шмат каму у сэрца ўлазіў . . .*
*Ажно выдаў кніжку цэлу:*
*«Канец, кажа, майму дзелу!*
*Няхай кніжка народ цешыць —*
*Каму сумна, таго сьмешыць.*
*Людзей страшыць канцом сьвету,*
*Бо навука ўсю плянэту*
*Хоча вынішчыць вайною —*
*І мяне і нас з табою! . . .*
*Кніжка — золата — на дзіва!*
*Варта болей, бяз сумніву:*
*Аднак плата, (не ахвяра) —*
*Гэты раз за пяць даляраў.*
*«Гей, Вінцук, адважны хлопец,*
*Строіць байкі табе хопіць! —*
*Да ўсіх баек прызнавайся,*
*Сам чытай, сам папраўляйся . . .»*

В. А.

Лёндан, 26 — I — 1974.

---

*Язэп Гэрмановіч*

# Учора—сягодня—заўтра

(Успаміны)

*III. Вучань і Пастух*

I.

Такія два чыны, якія я дастаў намінальна адразу, былі ў маім жыцьці здарэньнем нязьмерна выдатным: я ж ганарыўся імі перад усім дробным народам на Ашмянскай вуліцы. Тая дробяза дзеці — трымалася яшчэ матчынай спадніцы, калі мы — хлапцы — ішлі ўжо ў людзі. Наогул малых дзяцей было поўна ў хатах, затое мне тут вельмі спадабалася, бо кожны роўны быў маім прыяцелям, а старшыя рабіліся верхаводамі — яны вялі забавы ў гульнях, бралі ў рукі каманду, асабліва ў школцы.

Настаў асеньні — й зімавы сэзон, калі паказваўся сьнег і калі быдла заганялі ў хлявы на ўсю зіму.

Ведама, у школцы было найвесялей, хоць спачатку было няпрывычна, бо аж зацесна! Якая была нашая школа, можна судзіць з таго, што намі камандаваў адзін настаўнік, а клясаў меў ён чатыры і ўсе таўкліся ў аднэй салі — у пакоі такім прасторным, як адрына. Фактычна клясы лічыліся тры, але першая дзялілася на дзьве групы. Я ж мог трапіць адразу ў II-ую групу, але тады быў я такі малы — ледзь не найменшы з усяе школы, што утнуў мяне настаўнік у першую, бяз ніякага эгзамену, а зрэшты я й ня ведаў аніаднае літары па расейску!

Настаўнік наш, срогі пэдагог, меў вострае вока на ўсіх адразу й не жалеў ні штуршкоў, ні «накаленкаў», ані «завувушкнеў»: ня страшнае ўсё, апрача «лапы» — доўгай грубой лінейкай. Дзякуй Богу, я такой не дастаў аніразачку! хоць баяўся падчас усяе школы. Было і «без абеду» і «пасьля клясы».

Жыдоў у школе ня было ніводнага, хоць у мястэчку яны займалі ўвесь рынак і вуліцы ад рынку; нават тры іхныя сем'і мелі ўдзел у местачковай гаспадарцы — «у шнурох» поля. Аднак жыдоўскія хлапцы вучыліся ў сваім хэдіры пры сынагогах, якіх мелі дзьве вялікія, побач з сабою. Праваслаўных у мястэчку было нямнога і ў школе — таксама. Да іх прыходзіў на Божы Закон іхны сьвятар, які называўся Уладзімер Юзьвюк: гэта быў салідны і паважаны духоўнік, якога шанавалі навакол усе.

Я заўсёды бываў акуратным: ніколі не пазьніўся на лекцыі, бо ўважаў сабе школу за сьвяты абавязак. Але трэба ж таго, што аднойчы я дастаў самую вострую кару: мяне пакінуў настаўнік пасьля клясы! На жаль, ня помню, за што? Вам прызнаўся б, каб помніў. Аўдзей прыкрыкнуў на мяне і затрымаў ад усіх. Якраз усё зладжылася на маю некарысьць: западаў цёмны вечар; а дамоў мне трэ' былоісьці вельмі ня блізка! Аставацца ў пустой клясе аднаму — аж я жахнуўся, бо найбольш страшнай мне выдавалася печ і цёмны вугол за ёй. Старшыя хлопцы ўважалі, што малога нельга пакідаць адзінокім і нагаварывалі пайсьці да настаўніка — перапрасіць. Але я не згаджаўся: сядзеў у лаўцы і так плакаў, што сьлёзы цяклі праз пальцы і я ўвесь тросься са страху і гора! Вучыцеля я не баяўся, але ў маей душы аб'явіўся зацяты адпор і я казаў« Не пайду!» Закрываўся рукамі мокрымі ад сьлёзаў. Аднак хлапцы цягнулі мяне пад прымусам, хоць я ўпіраўся рукамі і нагамі. Нарэшце ўпхнулі мяне ў пакой настаўніка, а дзьверы трымалі, каб ня ўцёк. Вучыцель грозна буркнуў і, па бацькаўску дзёрнуў за вуха дый пусьціў вольна. Ну, у хлапцоў запанавала радасьць з перамогі; але ў мяне злосьць да іх не астыгла. Я ішоў ззаду, надуўшыся з канфузіі і толькі на вуліцы пакрысе адпусьціўся, а нават у душы цешыўся з свабоды і што той пракляты кут за печай астаўся пусты і я яго не баяўся... Трэба прызнацца, што хлопцы мяне абаранілі ад няшчасьця, бо сапраўды я ж хіба захварэў бы ад вялізарнага страху; усё ж у хаце я ня прызнаўся да такой паважнай прыгоды.

Першыя два гады — гэта былі страчаныя дні, тыдні й месяцы, — такія нудныя, што толькі нашая простая натура магла перагрываць такую «навуку»: мы ня мелі ў кніжцы ні абразкоў, ані цікавай лектуры. Нашая мова ў хаце і ў школе была беларуская, але настаўнік не сказаў ніколі ні аднаго слоўца па просту і мы змушаны былі адказываць па расейску, нам убілася ў душу такая казёншчына на ўсё жыцьцё! Толькі помню, што аднойчы Аўдзей паказаў нам «жывы абраз»: адзеў аднаго вучня ў расейскую сарочку і той увайшоў у клясу, сьпяваючы расейскую песьню. Я ж не зразумеў той песьні, але жывы абразок помніцца мне дасюль! Вось што значыць чужацкая школа з чужой мовай: так цар-бацюшка марыў нашых дзяцей і забіваў народную душу! Аднак драпежны лёс зводзіў нясьведамых людзей для свайго духавага панаваньня.

*

Нарэшце я перайшоў у II-ую клясу і мая навука пабегла жвава: мы ўжо разумелі расейскую мову і нас цікавілі вершы і проза. Матэматыка мне ішла трудней і мяне некаторыя пераганялі. Аднойчы настаўнік узбурыўся, што вучні забыліся таблічку множаньня і на заўтра назначыў адказны эгзамен: прынёс у клясу сваю смаглую лінейку. Маё сэрца ўпала: я страціў усялякую адвагу — думаў, што прападу! Ну, пашлі допыты: хлапцы аж прысядалі ад болю! Сьлёзы пацяклі багатыя і шчырыя, а літасьці — ніякае...

Ня ведаю, як я здаў той люты эгзамен, бо ў падобных спробах я заўсёды капыціўся? ён добра мяне мучыў, але не падлавіў. Мяне ён уважаў за спраўнага вучня і адносіўся лагадней.

Пашла III-яя кляса. Хоць быў я меншы ад іншых, але ўважаў сябе за старшага ў школе, хоць ня ўмеў верхаводзіць між другімі. Сам настаўнік не ставіў нас на калені і гаманіў з намі больш уважліва: пакінуў нас пасьля Вялікадня ў школе, каб прыгатаваць да апошняга эгзамену. Надта яму ішло аб тое, каб мы памысна здалі эгзамены, дык укладаў усю сваю мудрасьць у муштроўку нашае клясы. З расейскае мовы я дастаў адказаць верш «Русь», — доўгі верш, — аж баяўся, што зрэжуся! Але неяк адсыпаў усё без памылак: «Под большым шатром голубых небес...» Аж дасюль, больш як семдзесят гадоў, я добра ня мог адрожніць «голубого» колеру, пакуль у слоўніку не знайшоў, што «голубой» значыць «блакітны» — нябесны. Інспэктар Ашмянскага Гарадзкога Вучылішча прыезжаў на наш эгзамен і астаўся вельмі здаволены маім вершам «Русь».

Так скончыўся мой вучоны этап у першай школе.

## II.

Апрача школкі да мяне належыў абавязак пашы ў гаспадара нашага дому Антона Трэцяка і ягонай жонкі Марылі Трэцячыхі, якая была сястрой маей маткі, а маей цёткай. У іх бывала карова і празімак-цялушка. Паша пачыналася

вясной, калі зыходзіў сьнег, а паказвалася трава і зямля абсохла. Тады аўтаматычна перарывалася школка. Звычайна гэта больш-менш сходзілася з Вялікаднямі: пасьля Пасхі ужо ў школку ня зьбіраліся, але ніякага роспуску ніхто ў настаўніка ня пытаўся. Тады канікулы бывалі, як каму ўдалося: ужо само быдла раўло і ўпаміналася на пашу, бо і корм-салома — ужо старэла дый лішняе яе ня было; а часам і зусім бракавала. Быдла худзела — ажно некаторыя падыймалі свае каровы і сьпяшаліся выгнаць іх на пашу.

Дома матка з цёткай згаварыліся, як убраць пастуха: яшчэ раніцы бывалі халодныя, а дзень ужо цёплы, дык трэ было мець нешта цяплейшае. Абмундзіраваньне ішло самае прымітыўнае: кашуля, споднікі, рубашка і порткі, а з вясны яшчэ нейкі халат, кафтан ці нешта падобнае. Далей абавязкава трэба надзець праз плячо торбачку — гэта на хлеб і сыр, ці кусочак каўбасы, часам сьпечаная бульбіна, ці ўчарайшы блінок — вось і ўсё! Тут разам і абед, бо вясной у палудзень да хаты ня прыганялі. Я ж ня быў ані капрысны, ані пераборлівы: што далі, тое і добрае. Здаралася матка ўлажыла й яйко, цьвёрда зваранае — гэта ўжо — багаты абед! Ах, да адзетку павінен ісьці абутак, але на гэта служылі самі ногі: я цэлае лета хадзіў басанож. На шчасьце ў нас грунт быў пясчаны, крыху камяністы і часам ногі зьбіваліся і раніліся, але гаіліся самі сабой хутка і служылі ідэальна! Аднак вясной траплялі замаразкі, дык у пяску было нічога, але на дзірванохі на малой траве, ох, халадок праніклівы — аж даходзіў да сэрца! Тады палюеш, каб пабачыць вялікі камень і стаць на яго: ён трымае цяпло яшчэ ад учарайшала, бо трава трымала замаразь... Дый яшчэ трэ было мець біч, або хоць дубчык, ці стусінку.

Першы дзень: выганяем у поле. Выходзяць з хаты усе людзі, аглядаюць скацінку: перш трэба было падлажыць пад парог хлява яйко, а прытым нешта там шапталі і жагналі, а часам сьвянцілі сьвятой вадою. Усіх цэрэмоніяў я ня помню і ня вельмі дбаў пра гэта. Каровы угляданіся цікава на надвор'е і пры спатканьні з чужым быдлам абвязкава мусілі пабасьціся, каторая каторую параможа. Гэтая у іх цэрэмонія служыць пераважна на ўвесь далайшы курс пашы і быдла добра ведае герархію сілы і перамогі — ажно часам слабейшым штукам надта цяжка даецца захаваць адпаведную пашану мацнейшых іншых — аж мусіць нярэдка пастух бараніць загнаных слабейшых! Бо іх згоняць зь лепшае травы і з выгаднейшага месца.

Цікава таксама тое, што між быдлам адзываецца агульнае «выхаваньне» ў гаспадарцы: дзе пануе парадак у хаце і дысцыпліна, а й дастатак гаспадарскі, там і быдла жыве больш спакойнае і падатлівае, нат і паслушнае. На пашы такое быдла ня мсьціцца на слабейшых і не завідуе ім: часта узаемна вылізываюцца і бароняць сваё таварыства. Праўда, гэта залежыць найбольш ад пастуха, як ён умее шанаваць сябе і сваю жывёлу.

*(Працяг будзе)*

**БЕЛАРУСКАЯ БІБЛІЯТЭКА Й МУЗЭЙ**
**ІМЯ ФРАНЬЦІШКА СКАРЫНЫ Ў ЛЁНДАНЕ**

**FRANCIS SKARYNA BYELORUSSIAN LIBRARY AND MUSEUM**
**37 Holden Road, London, N. 12 8HS.**

Управа Беларускай Бібліятэкі й Музэю зьвяртаецца з просьбай да ўсіх прысылаць кніжкі, рукапісы, часапісы, здымкі зь беларускага жыцьця й наагул усё тое, што датычыцца да беларускай мінуўшчыны, да беларускай культуры, а што ў прыватных рукох магло-б лёгка загінуць.

Кажнаму ведама, што на павялічэньне кніжнага фонду, на неабходныя інвэстыцыі й на вядзеньне працы ў Бібліятэцы патрэбныя грошы. Як дагэтуль, Бібліятэка ня мае сталых даходаў і таму просьба да ўсіх, хто цэніць беларускую культурную ўстанову, прысылаць ахвяры, а так-жа памятаць пра яе ў тастамэнтавых запісах.

Управа Б. Б. і М. высказвае шчырую ўдзячнасьць усім тым, хто ўжо пераслаў у Бібліятэку або Музэй матарыялы зь беларусікі й хто дапамог матарыяльна.

**Управа Беларускай Бібліятэкі й Музэю**
**імя Францішка Скарыны ў Лёндане**

Лёндан, 25 сакавіка 1974.

ЗЬМЕСТ:



Druck: „Logos“ GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14